ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 64 (1701) | Пятніца, 10 жніўня 1962 года | Цана 4 кап

У ГЭТЫМ НУМАРЫ

ПРАПАГАНДА МАСТАЦТВА І УНІВЕРСІТЭТЫ КУЛЬТУРЫ

Рэцэнзіі на новыя кнігі

Апавяданне З. Азгура

На зямлі Афганістана



Калі слухаеш расказ пра ветэрана, міжволі ўяўляеш сабе чалавека пажылога, амаль не ўбеленага сівізною. Але вось муляр Лена Ілюковіч — таксама ветэран, а ёй мінула толькі дваццаць год. І многія нават пажылыя людзі называюць яе Аленай Паўлаўнай. З першых дзён будоўлі Лена працуе на будаўніцтве новага вялікага хімічнага прадпрыемства — Гродзенскага азотнатукавага завода. Разам з дваццаццю чатырма іншымі членамі брыгады Уладзіміра Макарэвіча, камсамолка-ветэран заўсёды знаходзіцца там, дзе цяжэй за ўсё. У гэтыя дні брыгада самаахвярна працуе на пускавым аб'екце будоўлі, удзельнічаючы ў мантажы абсталявання рамонтна-механічнага цэха. А паслязаўтра разам з усёй краінай брыгада будзе святкаваць Дзень будаўніка.

Фота А. Дзітлава.

## ФІЛЬМЫ ПРА БУДАЎНІЦТВА

Першага верасня на гарадскіх і сельскіх кінаўстаноўках рэспублікі пачнецца месячнік фільмаў па будаўніцтву.

Гледачам будуць прапанаваны хранікальна-дакументальныя і навукова-папулярныя кінакарціны «Буйнапанельнае домабудаванне», «Новае ў горадабудаўніцтве», «Сілікатныя будаўнічыя дэталі і канструкцыі», «Азеляненне савецкіх гарадоў», «15 мільёнаў кватэр», «Новае ў калгасным будаўніцтве», «Архітэктура Ленінграда», «Новыя сродкі механізацыі будаўніцтва» і іншыя.

Аб перадавых метадах, якія прымяняюцца на будоўлях Масквы і Ленінграда, расказвае навукова-папулярны фільм «Новае ў тынкавальных і малярных работах». Нагляднае ўяўленне аб новым эфектыўным будаўнічым матэрыяле дае кінакарціна «Папярэдне напружаны зборны жалезабетон».

Пытанням выкарыстання ў будаўніцтве розных відаў лёгкіх порыстых запаўняльнікаў — прыродных і штучных — прысвечан навукова-папулярны фільм «Лёгкія порыстыя запаўняльнікі». У дні месячніка будуць прагледжаны таксама кінакарціны «Комплексная брыгада на будаўнічай пляцоўцы», «Індустрыяльныя метады вырабу і мантажу сістэм прамысловай вентыляцыі», «Новае ў прамысловым будаўніцтве», «Газабетон» і інш.

## Увішныя папы і бестурботныя атэісты

М. АЛЕКСЮТОВІЧ,
кандыдат філасофскіх навук, спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».

ДУХАВЕНСТВА заўсёды праяўляла практычную кемлівасць, якой мог бы пазайздросціць не адзін спрактыкаваны махляр. Войны, забойствы, засухі, пажары — любыя стыхійныя бядоты і няшчасці людзей яно ўмее абарачваць на карысць сабе, ператвараючы ў крыніцу нажывы, узбагачэння. Факты? У фактах недахопу няма.

У пасляваенныя гады ў вёсцы Рандоўка Гомельскай вобласці штогод у ліпені веруючыя адзначаюць «свята», якое атрымала сімвалічную назву «Неапалімая купіна». Гэтае «свята» не значыцца ні ў адным царкоўным календары. Яго прыдумаў мясцовы свяшчэннік, выкарыстаўшы жахі і пакуты, выкліканыя вайной. У ліпені 1943 г. у Рандоўку прыбыў карны атрад немцаў. Жыхароў сагналі ў адзін з дамоў і вырашылі спаліць жыўцом за сувязь з партызанамі. Але партызаны нечаканай атакай разграмілі нямецкіх карнікаў і выратавалі людзей.

У гады Айчыннай вайны на акупіраванай тэрыторыі Беларусі гэта быў не такі ўжо рэдкі выпадак. Але як лоўка выкарыстаў яго «святы айцец»! Ён зараз жа перавёў усё на сваю папоўскую мову: маўляў, партызаны не самі выратавалі вёску, а дзякуючы яго святым малітвам у славу госпада бога. І вось цяпер, у памятны дзень, веруючыя штогод робяць вулічнае шэсце.

Раскажу яшчэ аб адной павучальнай гісторыі.

Гэта адбылося прыкладна у 1880 годзе. Сярод жыхароў вёскі Пацэвічы (цяпер калгас імя Калініна Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці) пранеслася чутка аб з'яўленні «духа святой Ганны», які па словах якогасьці фанатыка, папракаў прыхаджан за іх нявер'е. Па прапанове мясцовага папа на сродкі веруючых неўзабаве была пабудавана на гэтым месцы каплічка, названая імем «святой». Каплічка гэтая стаіць і па сённяшні дзень. У жніўні ў дзень фэсту да яе сходзяцца веруючыя з розных вёсак раёна і нават вобласці. У рэлігійным экстазе яны цалуюць камяні, да якіх калісьці быццам бы дакраналіся ногі «святой заступніцы» ў дзень яе таямнічага з'яўлення на зямлі, п'юць «святую ваду» з «гаючага» калодзежа і, зразумела, плацяць адпаведную ўзнагароду прыходскаму свяшчэнніку.

У мінулым годзе вырашылі спыніць жульніцтва і зняць каплічку з рэгістрацыі, але тады «святы айцец» і прыбліжаныя да яго фанатыкі пусцілі чутку, што каля царквы пахаваны савецкія воіны і партызаны, пачалі сцвярджаць, што сам па сабе гэты факт робіць святую абіцель месцам пакланення.

Магілы тут сапраўды ёсць, але ў іх тлеюць рэшткі эсэсаўцаў і паліцэйскіх. Вось гэта ўжо сапраўды кашчунства і глумленне з самых свяшчэнных пачуццяў савецкіх людзей. Але ў царквы сваё паняцце аб тым, што мы называем свяшчэнным, яно раўназначна пакланенню «залатому цяльцу». Грошы ж не маюць паху.

Вось так, прыстасоўваючыся да сучаснасці, царкоўнікі робяць усялякія захады, толькі б вывудзіць працоўныя грошы ў даверлівых людзей. Зварот да розных фетышаў і «святынь», маніпуляцыі з «абнаўленнем» абразоў — з'ява даволі пашыраная і ў наш час. А як жа: чым больш веры і страху перад караючай дзясніцай госпада, тым паўней становіцца царкоўная казна. А гэта галоўнае. Матэрыяльны дабрабыт заўсёды быў на першым месцы ў «служыцеляў бога».

У НАШАЙ КРАІНЕ вядзецца рашучая барацьба супраць рэлігіі і яе носьбітаў. Аднак яшчэ ў радзе выпадкаў атэістычная работа носіць фармальны характар і не прыносіць жаданых вынікаў. Фармалізм жа стварае спрыяльную глебу для дзейнасці царкоўнікаў і сектанцкіх прапаведнікаў.

Нельга лічыць, што людзі, у тым ліку і веруючыя, не бачаць і не разумеюць гэтага. Можна прывесці безліч фактаў, якія сведчаць, што іменна прагнасць папоў, ксяндзоў і іншых служыцеляў культу раскрыла вочы людзям на сапраўдную сутнасць рэлігіі. Паўстае пытанне, у чым жа справа, чаму ў такім выпадку, калі мець на ўвазе і нашу атэістычную прапаганду, чаму ўсё яшчэ трапляюць людзі ў павуцінне рэлігійных забабонаў? На гэтае пытанне коратка не адкажаш. Існаванне рэлігійных вераванняў абумоўлена цэлым комплексам аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў. Канкрэтныя прычыны аб'ектыўнага характару караняцца ў гістарычных, геаграфічных і сацыяльна-бытавых умовах жыцця людзей. Але нельга не ўлічваць і яшчэ аднаго фактару, ці, лепш сказаць, абставін. Больш дакладна, чым сказаў аб гэтым былы праваслаўны багаслоў А. А. Осіпаў, бадай, не скажаш. «...Цяпер людзі, — піша ён, — нярэдка трапляюць у сеткі рэлігійных забабонаў таму, што «пастыры» царквы і сектанты ўмеюць падысці да іх з улікам патрэб данага моманту і чалавечых перажыванняў, а грамадскасць і яе прадстаўнікі нярэдка задавальняюцца чэрствай разавасцю гутарак і асобных сустрэч з чалавекам».

Гэта правільна. Бывае так, што лектар прачытаў лекцыю, атэістычны вечар праведзены, у плане мерапрыемстваў пэўнай установы ставіцца слазутая «птушка» і лічыцца, што ўсё ўжо зроблена.

Так, напрыклад, здарылася ў Мастоўскім раёне. У 1960 годзе тут быў дадзен, так сказаць, «генеральны бой» сектантам. У РДК адбыўся нядрэнна падрыхтаваны атэістычны вечар і, як спачатку здавалася, дзве секты спынілі сваё існаванне. Але добрая ініцыятыва не была падхоплена і справу да канца не давялі. Апраўіўшыся ад першых «паражэнняў», сектанцкія важакі пачалі дзейнічаць асцярожней, больш гнутка. У выніку фармальна лічыцца, што абшчыны распаліся, а на самай справе яны існуюць.

Наколькі трывала звілі сабе гняздо ў Мастах сектанты, сведчыць такі факт, што толькі ў раённай бальніцы працуе 7 баптыстаў, сярод іх бухгалтар Аляксеева, сястра-гаспадыня Качнова, медсястра Даўгун. Два гады назад пытанне аб рабоце сярод веруючых абмяркоўвалася на сходзе пярвічнай партарганізацыі. Было вырашана за кожным сектантам «замацаваць» камуніста. І вось вынік: калі два гады назад было 4 баптысты, то цяпер іх 7. Галоўны ўрач бальніцы тав. Сарока разводзіць рукамі: «Спрабаваў я аднойчы пагаварыць са сваёй падшэфнай Качновай і асекся. Кажу ёй: Качнова, і ты верыш ва ўсю гэтую лухту ў той час, як мы камуністычнае грамадства будуем, спадарожнікаў запускаем у космас? А яна ў адказ: верыла і верыць буду. Ну, што ты з ёй зробіш?». Ці не дзіўна: чалавек з вышэйшай адукацыяй, камуніст не здолеў супрацьпаставіць сектанцы навуковыя аргументы, хоць бы са сваёй вобласці. Ён вырашыў разлічыцца з рэлігіяй, абвясціўшы яе проста «лухтой», сфабрыкаванай падманшчыкамі. І не дзіўна, што «асекся».

У лютым месяцы гэтага года з артыкулам аб становішчы спраў у бальніцы выступіла раённая газета «Шлях перамогі». І... таксама «асеклася». У Мастах не знайшлі патрэбным яе падтрымаць. Апошні час атэістычная работа ў раёне — трэба прама сказаць — кульгае.

Мне даводзілася гутарыць з сакратаром райкома партыі тав. Захаркам. Паводле яго слоў, у апошні час у Мастах сектанты «збіраюцца падпольна». Вядомы і каардынаты іх зборышчаў і тыя спосабы маскіроўкі, якія яны ўжываюць: у час маленняў у адным з пакояў на поўную магутнасць уключаецца «сатанінскае» вынаходства — радыёпрыёмнік, а ў другім пяюць і моляцца «божыя людзі». Не распалася абшчына і ў Ланцэвічах. Якія ж захады прымаюць атэісты раёна? А ніякіх.

Не весці барацьбу з рэлігіяй — азначае патураць ёй. Але ў камунізм мы зусім не збіраемся ісці пад руку з носьбітамі старадаўніх ідэй. Камуністычнае грамадства ўжо па самой прыродзе сваёй выключае такую форму свядомасці як рэлігія. А дзеля гэтага недастаткова абвясціць рэлігію «перажыткам мінулага», фармальна «раскласці» абшчыну або «закрыць» царкву. Трэба пераадолець тыя грамадскія фактары, якія здольны нараджаць рэлігійныя вераванні, узброіць людзей веданнем законаў развіцця прыроды і грамадства.

З гэтым, бадай, згодзіцца і пенсіянер Сямёнаў, няштатны лектар Мастоўскага райкома партыі, які, праўда, лічыць, што рэлігія поўнасцю ўжо сябе зжыла. «Рэстаўрацыі рэлігіі не адчуваем, — гаворыць ён. — Старыя паміраюць, а моладзь у нас няверуючая. І калі раней у раёне дзейнічала 6 семінараў атэістаў, дык цяпер тры. Няма «росту» веруючых».

Вядома, новае заўсёды перамагае старое. І ўсё ж старое яшчэ жыве сярод нас. Плятуць павуцінне сектанты, звоняць па нядзелях званы касцёлаў і цэркваў. І веруючы ідзе ў малітоўны дом, у царкву або ў касцёл. Няхай аб богу ў яго самыя няясныя ўяўленні, што мяжуюць з пантэізмам або фетышызмам, няхай догматы рэлігіі яго мала цікавяць, але калі ён ідзе — хоць бы нават па прывычцы — гэта павінна непакоіць нас. У божым храме ўсё разлічана на тое, каб у чалавека выключалася свядомасць і дзейнічалі выключна органы пачуццяў.

ЖЫЦЦЁ паказвае, што атэістычная работа не ўсюды і не заўсёды адпавядае патрабаванням часу. Нярэдка яе вядуць энтузіясты-адзіночкі або людзі выпадковыя. Бывае, замест прадуманай, сістэматычнай, мэтанакіраванай работы, на месцах займаюцца простым дэклараваннем, або — што яшчэ горш — адміністраваннем. Спашлёмся на прыклад, аб якім гаварылася вышэй.

Каплічка «св. Ганны» ў Пацэвічах, відаць, даўно ўжо стала «притчей во языцех» у Мастоўскім раёне. І вось, урэшце, выносіцца рашэнне: каплічку ўзарваць. Але ўзрываць не давялося — запярэчылі веруючыя. А чаму было б спачатку не правесці адпаведнай работы сярод іх?

А вось яшчэ адзін прыклад, які нельга абысці маўчаннем. У тым жа Мастоўскім раёне доўгі час дзейнічаў у вёсцы Рагозінцы ксёндз Мяноўскі Іван Браніслававіч. Доўгі час ашукваў веруючых католікаў, абяцаючы ім замест зямных даброт і радасцей царства нябеснае. Але рэальнае зямное жыццё ўнесла свае карэктывы. Змянілася свядомасць прыхаджан, «змянілася» яна і ў ксяндза. У 1954 годзе ён склаў з сябе духоўны сан, распісаўся ў сельскім Савеце з былой арганісткай касцёла Марыяй Белашэвіч і паехаў за мяжу. Не стаў задумвацца «святы айцец», што ён пастыр душ людскіх. Пакінуў ён і касцёл і прыхаджан, не пакінуў толькі таго, да чаго прагны «боскі род». Усё жыццё ён прапаведваў: «не клапаціцеся для душы сваёй, што вам есці, ні дзеля цела, у што апранууцца», а ад'язджаючы ў Польшчу ўгнаў дзве «пабеды», гружаныя каштоўнасцямі, і забраў з сабой семдзесят тысяч рублёў, якія сабралі веруючыя на рамонт касцёла.

Які гэта яркі факт, што можна было б выкарыстаць у атэістычнай рабоце сярод веруючых! І не толькі ў Мастах. Але атэісты раёна вырашылі, што пасля ад'езду ксяндза не патрэбна займацца антырэлігійнай работай: вера ў бога, маўляў, адамрэ сама па сабе. Ды здарылася не так, як думалі ў раёне. Дэлегацыя ад каталіцкага прыхода праз некаторы час прыйшла ў райвыканком прасіць сабе ксяндза. А калі ім адмовілі, яны самі прывезлі яго з Роўна. І нават пасля гэтага не былі зроблены адпаведныя вывады. Ксяндзу адмовілі ў прыпісцы. І толькі.

Дарэчы сказаць, мне здаецца, што такія факты маглі б паслужыць тэмай для роздуму пісьменніка. Аўтарытэт пісьменніка ў нас вельмі вялікі, да яго голасу прыслухоўваюцца мільёны людзей. І трэба, каб сярод пісьменнікаў Беларусі былі свае Галаны, сапраўдныя, палымяныя атэісты, якія мастацкім словам падводзілі б веруючых да навукова-атэістычнага светапогляду. Нашы пісьменнікі ў даўгу перад грамадскасцю, яны амаль не займаюцца антырэлігійнай тэматыкай. А тыя, хто аднойчы выступіў у друку па пытаннях рэлігіі, не заўсёды ў курсе справы. Так, у 1960 г. з'явіўся вадэвіль А. Радзівілава «Божы чалавек», які рэкамендаваўся для рэпертуару мастацкай самадзейнасці. Трэба сказаць, што гэты вадэвіль напісан без ведання сутнасці баптысцкага веравучэння. У ім, напрыклад, выведзены баптыст Халімон Галавешка, які распівае самагон. Блізкая да яго жанчына Сымоніха хрысціцца, называе Халімона «святым айцом». Але ж у сапраўднасці ўсё гэта аўтарскія домыслы: вядома, што ўжываць спіртное баптыстам забаронена, яны таксама не прызнаюць «крыжовага знамення», свайго прапаведніка называюць не «святым айцом», а «братам», або «старшым братам».

У гэтым артыкуле мне не проста хочацца папракнуць людзей, якія займаюцца атэістычнай прапагандай, у бездапаможнасці. Больш важным з'яўляецца высвеліць, адкуль яна ідзе. На многіх фактах жыцця, у тым ліку і ў час камандзіроўкі ў Мастоўскі раён па заданню рэдакцыі я глыбока пераканаўся: загана, характэрная для аўтара вадэвіля «Божы чалавек» — неглыбокае веданне сутнасці прадмета, — характэрна для многіх нашых атэістаў. Адсюль і бездапаможнасць іх, пры ўсім жаданні прынесці карысць і пры ўяўнай ваяўнічасці. Адсюль і няўменне выкарыстаць такія вось факты — нараджэнне новых свят, гісторыі ўзнікнення ўсялякіх капліц і «цудадзейных» мясцін і многае іншае. Адсюль і — што асабліва прыкра — няўменне па-сапраўднаму ўзяць усе гэтыя факты, прыклады на ўзбраенне прапагандыстаў, лектараў-атэістаў, работнікаў клубаў і дамоў культуры, настаўнікаў. Вось на што і хацелася б звярнуць асаблівую ўвагу чытачоў.

Нашы інтэрв'ю

## КАРУНКАВЫ МАТЫЛЁК

Усё, што належыць загадзя ведаць карэспандэнту пра чалавека, да якога ідзеш браць інтэрв'ю, я ведала аб місіс Пер Лілі. Яна — сакратар Натынгемскага аддзялення Англійскага нацыянальнага камітэта дружбы з Савецкім Саюзам. Яе лічаць вельмі ўплывовай асобай (як гавораць за мяжой) у палітычных колах свайго горада. І яшчэ. У складзе англійскай дэлегацыі яна прымала актыўны ўдзел у рабоце Сусветнага кангрэса міру ў Маскве. Да нас у Мінск яна прыехала таксама як афіцыйны прадстаўнік — узначаліла дэлегацыю горада Натынгема. Натынгем — горад-друг Мінска. А місіс Пер Лілі — душа гэтай дружбы, яе маці, калі гаварыць вобразна. Усіх гэтых звестак, здавалася, зусім дастаткова для кароткага газетнага інтэрв'ю.

І ўсё ж мяне ахапіла пачуццё лёгкай трывогі, калі наша перакладчыца пастукала ў дзверы нумара гасцініцы «Мінск» і на англійскай мове спытала: «Да вас можна, місіс Лілі?» Размаўляць з грамадскімі дзеячамі замежных краін дасюль мне яшчэ не даводзілася. І я падрыхтавалася да стрыманай, магчыма, нават крыху дыпламатычнай гутаркі. Прыйдзецца, напэўна, вельмі прадумана і асцярожна задаваць пытанні, тым больш, што «па сакрэту» мяне папярэдзілі: прадстаўнікоў друку, па ўласнаму прызнанню, Пер Лілі любіць «толькі на значнай адлегласці...»

Такім чынам, я падрыхтавала сябе да афіцыйнай сустрэчы, якая не абяцала шчырай, непасрэднай размовы. А праз момант ад усёй гэтай падрыхтоўкі не засталося і знаку. Нам насустрач выйшла жанчына, якую адразу ж захацелася назваць не «місіс», а проста «таварыш Пер». Думаю, што гэтыя словы заменяць самыя яркія эпітэты да характарыстыкі з першага позірку. І прастата, і сардэчнасць, і нешта такое «наша», такое «сваё», што ўгадваецца нават з поціску рукі.

А што датычыць «нелюбві да прадстаўнікоў прэсы», гэта таксама было, напэўна, значна перабольшана. Бо Пер Лілі не прымусіла мяне нават шукаць у сваім блакноце загадзя падрыхтаваныя пытанні.

— Вас цікавяць мае ўражанні аб Кангрэсе міру? — першай пачала яна размову. — Ведаеце, што мяне найбольш уразіла? Аднадушнасць! Прызнацца, я не чакала, што такія розныя па свайму светапогляду, па палітычных і рэлігійных пераканаsuccах людзі здолеюць знайсці агульную мову. Ды яшчэ як знайсці! Толькі пяць чалавек устрымалася ад галасавання за рэзалюцыю кангрэса. Пяць — з некалькіх тысяч. Я лічу, што гэта вялікая, гістарычная перамога справы міру.

Што датычыць нашай, англійскай дэлегацыі, дык яна ў мініяцюры адлюстравала, бадай, усе адценні палітычнай барацьбы партый у краіне. Былі сярод нас і пацыфісты і квакеры. І тым не менш, калі размова ішла аб міры, мы ўсе адчувалі сябе перш за ўсё жыхарамі адной планеты. Планеты, над якой навісла страшэнная небяспека.

А вы чулі пра тых трох англічан, якія выйшлі на Красную плошчу з нейкімі дзіўнымі надпісамі на транспарантах? Запэўніце чытачоў газеты, што гэтыя людзі не маюць ніякіх адносін да англійскай дэлегацыі. Гэта, ну як бы на рускай мове сказаць, адшчапенцы або лепш сказаць адкіды. На Краснай плошчы іх сустрэлі рускія жанчыны вельмі ветліва, бо яны ж не маглі зразумець, што там напісана на транспарантах, запрасілі англічан прыехаць на Першае мая, калі будзе ўсеагульная дэманстрацыя на плошчы. Давялося недарэчным «дэманстрантам» хуценька згарнуць свае «ваяўнічыя» лозунгі і схавацца далей ад людскіх вачэй.

А назаўтра брытанскае радыё паведаміла: «На Краснай плошчы адбылася грандыёзная дэманстрацыя».

Пер Лілі засмяялася.

Я ў гэтую хвіліну вельмі пашкадавала, што пяро не валодае ўласцівасцямі магнітафона. І што потым я не здолею перадаць чытачам адценняў гэтага смеху, такога з'едлівага, такога знішчальнага.

У заключэнне размовы аб кангрэсе я запыталася: які пункт погляду на раззбраенне самы папулярны ў Англіі? Місіс Пер Лілі крыху задумалася, а потым адказала:

— Бадай што той, які выстаўляюць у нас квакеры: мы павінны ажыццявіць раззбраенне ў сваёй краіне, незалежна ад таго, што зробяць у гэтым напрамку ўрады іншых краін. Асабіста я думаю, што гэткі погляд вядзе да неразумення. Але так думаюць многія брытанцы і не лічыцца з імі нельга.

— Што я думаю аб вашым горадзе, аб Мінску? Ведаеце, я баюся быць занадта сентыментальнай, але калі я пачынаю гаварыць пра Мінск, мне хочацца выказаць свае пачуцці толькі такімі словамі: «Мінск — гэта мой другі дом». Я люблю яго так, як люблю Натынгем. Люблю таму, што за кожным прыгожым будынкам бачу мінулае вашага горада, разумею, якою цаною дасталася гораду сённяшняя прыгажосць.

Гісторыя дружбы Мінска і Натынгема не такая простая, як гэта можа здацца на першы погляд. Гадоў дзесяць назад, калі мы атрымалі першае пісьмо з Мінска, у горадзе быў мэр — не вельмі вялікі прыхільнік Савецкага Саюза. Ён нават не давёў да ведама грамадскасці прапанову мінчан устанавіць цесныя сяброўскія сувязі паміж двума гарадамі. Пачуцці простых людзей былі зняважаны, і нашаму мэру, як у вас, у рускіх гавораць, не паздаровілася.

Цяпер у нас другі мэр, сэр Сідней Хіл, олдэман — бацька горада, як мы яго называем. Гэта зусім іншы чалавек, шчыры сябра савецкага народа. Мы прывезлі запісанае на плёнку прывітанне ад яго мінчанам. Адсюль павязём прывітанне вашага мэра натынгемцам.

Хочацца расказаць мінчанам пра аднаго садоўніка з Натынгема — Хары Уіткрофта. У падарунак вашаму батанічнаму саду ён абяцаў прыслаць 50 гатункаў руж. Англійскія ружы будуць цвісці ў Мінску. Цудоўна, праўда?

А яшчэ мы прывезлі паэму, напісаную нашым мясцовым паэтам аб Мінску. Натынгемскі кампазітар напісаў да яе музыку. Так што, бачыце, дружба нашых гарадоў ідзе па самых разнастайных каналах, у тым ліку і творчых. Аб гэтым факце, напэўна, цікава будзе паведаміць чытачам газеты «Літаратура і мастацтва». Запішыце абавязкова, — просіць Пер Лілі.

І я выконваю яе просьбу, запісваю. А яна (калі ўжо гаворка зайшла пра паэзію) ніяк не магла ўстрымацца, каб не пахваліцца сваёй радасцю. У 13-гадовай прыёмнай дачкі місіс Пер Лілі — Мавоніен па прыездзе ў Савецкі Саюз раптам «прарэзаўся паэтычны талент». Яна пачала пісаць вершы. Не верыце? Калі ласка, паслухайце. Місіс Пер уключыла магнітафон. Вершы дзяўчынкі аб Савецкім Саюзе, аб Мінску запісаны на магнітафонную плёнку. З дапамогаю перакладчыцы Пер Лілі перадае іх змест, і зноў так своеасабліва, так непасрэдна смяецца, каменціруючы кожны радок, што я яшчэ раз пашкадавала: чаму пяро не валодае ўласцівасцямі магнітафона. Што датычыць паэтычных якасцей вершаў, то аб іх меркаваць цяжка без ведання англійскай мовы. Маці гаворыць, што гэта «цудоўныя, незвычайныя вершы», і прыйдзецца паверыць ёй на слова. А вось іх напрамак, іх палітычны змест, калі можна так сказаць, не выклікае сумнення. Мяркуйце самі:

Прывозьце сваіх тат і мам у
Савецкі Саюз,
Гэта не вельмі дарага і
не вельмі далёка.
Прыязджайце ў Савецкі Саюз...
Не слухайце, што гаворыць
англійскае радыё,
Быццам на Краснай плошчы
кожны дзень
сядзячыя забастоўкі.
Прыязджайце ў Савецкі Саюз...
Тут нядаўна быў кангрэс.
Людзі свету гаварылі
пра мір,
А мы падаравалі Хрушчову
натынгемскія карункі.
Прыязджайце ў Савецкі Саюз...

Карункі, падараваныя Хрушчову, — гэта ўжо дзіцячая фантазія. Але маленькі белы карункавы матылёк (чамусьці здаецца, што гэта сімвал горада Натынгема), што прымацавала да маёй сукенкі місіс Лілі, таварыш Пер, як назвала я яе ў думках, — будзе заўсёды для мяне ўвасабленнем добрых пачуццяў простых людзей Англіі да нашай краіны, да нашага горада.

— Што перадаць чытачам «Літаратуры і мастацтва» ад вашага імя? — спытала я на развітанне.

— Давайце лепш я сама напішу некалькі слоў.

І місіс Пер Лілі напісала:

To the readers of Literature and Art
let us strengthen our ties
for Friendship and Peace
The Pen is mightier
than the Sword.
Pearl Lilley

«Чытачам «Літаратуры і мастацтва». Давайце мацаваць дружбу і мір. Пяро мацней за меч».

А. УЛАДЗІМІРАВА.



— Мінск — мой другі дом, — гаварыла Пер Лілі.
Якраз у гэты момант наш фотакарэспандэнт Уладзімір Крук і зрабіў здымак. Юная паэтэса Мавоніен (злева) і другая дачка Пер Лілі Антуанет толькі што вярнуліся з прагулкі па горадзе. Але і яны яшчэ раз залюбаваліся цудоўнай панарамай беларускай сталіцы...

З кінакамерай па рэспубліцы

## «Савецкая Беларусь» № 20

Мінская студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў выпусціла на экраны рэспублікі чарговы, дваццаты нумар кіначасопіса «Савецкая Беларусь». Першыя два сюжэты гэтага нумара прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння народнага паэта БССР Янкі Купалы.

...На Мінскім падшыпнікавым заводзе звычайны працоўны дзень. Выдатна прайшоў ён, напрыклад, у ветэрана завода шліфоўшчыка Уладзіміра Маёрава. Паўтары нормы выдадзена на кожным з двух абслугоўваемых ім станкоў. А калі падлічыць, колькі далі звыш нормы сёння ўсе рабочыя, атрымаецца вялікая лічба. І так кожны дзень. Вось чаму хочацца верыць: дзесяткі тысяч звышпланавых падшыпнікаў, якія абяцаў сёлета даць завод, краіна атрымае абавязкова. Аб працоўных буднях Мінскага падшыпнікавага завода расказвае кіначасопіс.

У сельскіх гледачоў асаблівую цікавасць выклічуць кінакадры, знятыя ў сельгасарцелі «1-е Мая», што на Случчыне.

У кіначасопісе расказваецца таксама аб кубінскіх студэнтах, якія вучацца ў Беларускім універсітэце імя Леніна, аб спартыўным свяце, якое праводзілася на мінскім стадыёне «Дынама» ў гонар 18-й гадавіны вызвалення сталіцы Беларусі, аб выстаўцы-продажы твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Мінскім магазіне-салоне.

К. РАМАНОЎСКІ.

## ДЛЯ СЕЛЬСКІХ ГЛЕДАЧОЎ

Днямі з гастрольнай паездкі па Віцебскай вобласці вярнуліся артысты Беларускага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.

На працягу трох тыдняў яны пабывалі больш чым у дзесяці глыбінных раёнах і далі за гэты час каля 60 прадстаўленняў. Майстры мастацтваў таксама аказвалі вялікую практычную дапамогу самадзейным драмкалектывам.

У гэтым годзе для сельскіх працаўнікоў Беларусі тэатр даў ужо звыш 200 выязных спектакляў.

(БЕЛТА).

